Год I. Люты 1932 г. № 2.




Ты єси Пётръ,
и на семъ камени созижду церковь мою. Мат. ѕі. иі.

## БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

АЛЬБЭРТЫН.

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

З Ь М Е С Т № 2.



---

„Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на паўгода . . . . 2. зл.
„ год . . . . . 3. 50.

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka 58.

---

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 6.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопісь.

Альбэртын. Люты. 1932 г. № 2

## Белы чалавек.



СЬВЯТЫ АЙЦЕЦ ПІУС XI.

Цёмная грозная хмара сучаснай сытуацыі ўсясьветнай павісла над зямлёю, закрываючы сьветлыя гарызонты будучыні чорнаю заслонай жудаснае безнадзейнасьці.

Крызыс эканомічны, безрабоцьце, голад, соцыяльные пераваротыі змаганьні, крывавыя войны. Агідная спагуда дзікасьці й паганізму, бы гад стогаловы, выпаўзла з пад разваліна ў новачаснага Бабілёну грамадзкага і паграже змучанаму чалавецтву вечнай загубай. Любоў, праўда і справядлівасьць утанула гдзесь у моры бязладзьдзя, пашла на дно.

А з гнілога тапелішча маральнага падняліся туманы, выпары, ды вытварылася ўдушлівая атмосфэра фалшу, эгоізму, абармоцтва палітычнага, прагавітасьці і грубога матэр'ялізму, гвалту, крывадушнага подступу і здрады...

З толку зьбіліся народы і дзяржавы, абянтэжыліся ўлады, паблыталіся сьветапагляды й законы. Пагасьлі зямныя пуцяводныя зоркі. Ня відно сярод натоўпу сучасных дзеячоў і верхаводаў грамадзкіх такіх стратэгаў, якія-б здольны былі разадраць чорную заслону безнадзейнасьці і паказаць зьбянтэжанаму чалавецтву просты няблудны шлях да выхаду з крытычнае сытуацыі.

— Ці-ж сапраўды ня відно?

Дарагія чытачы! Расплюшчыма крыху шырэй вочы і гляньма свабадней ды шчырэй упярод!

На цёмнай асноведзі сумнае сучаснасьці віднеецца белая сьветлая постаць. На высокай скале вечнае Ромы стаіць з паднятым у гару прамяністым, моў сонца, знакамсьцягам белы чалавек ды кліча: Гэтым пераможаш! Спасеньне ў Хрысьце! Бо крыж гэта наймудрэйшая сынтэза сусьветнага ладу! Крыж гэта лучнасьць чалавека з ягонай крыніцай быцьця — з Богам! Крыж дарога і праўда і жыцьцё! Тады разьдзярэцца чорная заслона жудаснай безнадзейнасьці, калі воля сучаснага чалавека збунтаванага паддасца волі вышэйшай Божай, на крыжы! Натура бо чалавека да свайго самаўпарадкаваньня вымагае вышэйшага ад сябе аўторытэту нескончатнага, абсалютнага! А лад зямны— вымагае ладу стратэгіі надземнай! Я, прах перад Богам, а перад табой апостал Божы ў імя збаўленьня твайго, спаганелы няшчасны чалавеча, дамагаюся ад цябе прызнаньня і прыняцьця пагарджанага знаку твае перамогі!...

О, які-ж пажаданы збаўчы і прыгожы гэны кліч у нашых часох! Якім-жа рэхам жывым послуху ён павінен-бы адбіцца ў сэрцах людзкіх, асабліва-ж у сэрцах хрысьціян! Скалы павінны ад яго ўзрушыцца!

Як-жа падобныя да прарочых Ісаявых ці Ярэміявых вешчыя вусны тыя, якія гласяць гэны кліч разбуранаму выкалеянаму сьвету! Сапраўды, ніводзін хіба першасьвяшчэньнік рымскі, Намесьнік Хрыстовы ня быў так пэўны і сьве-

дамы свае чэснае апостальскае місіі, ніводаін хіба з усіх наступнікаў сьв. Пятра не адзначаўся такой аўрэоляй павагі і аўторытэту, як сучасны Піус XI. Ідэальны характарам асабістым, глыбокі вучоны гісторык, соцыёлёг, выбітны дыплёмат, псыхолёг і пэдагог.

То-ж уступіўшы на высокі пасад апостальскі адразу зар'ентаваўся з вышыні свайго становішча ў новай павоеннай сытуацыі і паставіў справу сучаснага хрысьціянства на новыя правідловыя шляхі. 25 энцыклік і колькінаццаць конкордатаў, а над усё незалежная Ватыканская дзяржава дабітна сьведчаць аб гэнай геніяльнай стратэгічнай ар'ентацыі.

Дык каго-ж не зацікавіць гэная сапраўды вялікая асабістасьць!? Хто-ж устоіць перад яе сілай і чарам!

Сапраўды, Ей толькі дана пацягнуць да еднасьці і трыумфу разьяднаныя, стогнучыя ў няволі антыхрыста, сем'і хрысьціянства.

О як-жа напрашаюцца пад пяро словы прарочай візіі Ісаі (2:2, 3) так выразна малюючыя, хто ведае, можа недалёкую ўжо будучыню Хрыстовай Царквы:

„І будзе, — кажа вешч Божы, — ў апошнія дні прыгатована высь дому Господняга на вяршынах гор і падымецца выжэй прыгоркаў ды паплывуць да яе ўсе народы. Прыдзе тако-ж мноства людзей і скажа: Хадземо, падымемся на гару Господнюю і да дому Бога Якубавага, а пакажа нам шляхі свае і будзем хадзіць сьцежкамі Яго, бо з Сіону выйдзе закон, а слова Господняе з Ерузаліму".

О, Божа міласэрны! Як-жа ўздыхае сэрца наша да тае хвіліны! Як дамагаецца гэтага лёгіка збаўленьня людзтва.

---

А дасюляшняя рэчаістасьць ня гледзячы на тое, як прадстаўляецца? — У форме вось такой трагічнай антытэзы, ці недарэчнасьці.

Памазанца Белага — называюць чорным, няпрызваным.
Блізкага — далёкім.
Ціхога і скромнага — ўладалюбцам.
А што найдзіўнейшае ды найтрагічнейшае:
Пажаданым — пагарджаюць!

Так. Белы, ясны, чысты і інтэнцыяй місіі, і асабістай вартасьцю характару свайго, як крыштал, як высокая сьветлая ідэя яго, каторай служыць, аднак праз чорнае зладумства ачэрнены як узурпатар, капіталісты, староньнік упрывільеёваных клясаў і т. д.

Так блізкі нам славянам душою, айцоўскім чулым сэрцам, любоўю самарытанскай, а мы так далёкі ад яго сым-

патыі, так аддаляны чорнаю няўдзячнасьцю, дэмагогічным упярэджаньнем...

Ціхі і скромны. Ня мае гармат, бомбаў, самалётаў і танкаў, ня мае палкоў у сталь закутых, ня грымяць буяным адчаем яго сурмы баявыя, аднак дрыжаць (скрыта) і трывожацца перад ім уладары гэтага сьвету, як дрыжаў калісь і трывожыўся крыклівы, у сталь узброяны, фалш перад ціхаю ўбогаю Праўдай, народжанай у яськах ды пялёнках жабрачых.

А ў канцы: усе моляцца, тужаць да еднасьці, гармоніі, суладу і любові, на каторых Вялікі Будаўнічы Хрыстос фундаваў сваё духовае валадарства і ўсе прызнаюць неабходнасьць відзімага цэнтру, бо занадта ўжо даецца ў знакі анархія. Конфэруюць, пастанаўляюць аб уніфікацыі, сіляцца штучна стварыць нейкі цэнтраўторытэт тады, калі Богам уфундованы цэнтр істнуе, разьвіваецца і ўмацоўваецца ўжо дзьве тысячы год. Нашто грыбы нясьці ў лес? Нашто пагарджаць тым, чаго шукаеце?...

---

Сяньня вось мінае ўжо 10 лет, калі Хрыстос даручыў сваё намесьніцтва сучаснаму першасьвяшчэньніку Піусу XI. 10 лет дзейны верхавод хрысьціянства дзержыць годна і высока сьцяг Хрыстовы. Ані на ёту яго не паніжыў. Наадварот — падвысіў! Хай-жа будзе гэная памятная хвіліна шчасьлівай! Прыспары, о Божа, яму сіл на многія лета і дазволь дачакацца якнайлепшых вынікаў мазольнае апостальскае працы!

Белы чалавек хай у ваччу ўсіх будзе белым! Далёкі — блізкім! Ціхі — ўладаром зямлі! Пагарджаны — шчыра пажаданым!

Дамачэва над Бугам. *а. П. Татарыновіч.*



# Аб мытару і фарызэю.

(33-яя нядзеля (пасьля Пяцідзес.), паводле сьв. Лукі 18, 10-14. Зачала 89).

10. Сказаў Ґасподзь такую прыповесьць: Двое людзей увайшлі ў сьвятыню памаліцца: адзін фарызэй, а другі мытар.

11. Фарызэй, стоячы, так маліўся сам у сабе: Божа, дзякую табе, што я не такі, як іншыя людзі: зьдзерцы, крыўдзіцелі, чужаложцы, або як і гэты мытар.

12. Пашчу два разы ў тыдзень, даю дзесяціну з усяго, што здабуду.

13. А мытар, стоячы здалёк, не адважываўся вачэй навет падняць у неба: але біўся ў грудзі, кажучы: Божа, будзь міласьцівы нада мною грэшным.

14. Кажу-ж вам, што гэты пайшоў у дом свой больш апраўданы, як той: бо кожны, хто ўзвышаецца, будзе прыніжаны; а хто паніжаецца будзе ўзвышаны.

---

У сяньняшнім евангельлі аб фарызэю і мытару на прыкладзе Ісус Хрыстос павучае нас, як можа шкодзіць чалавеку пыха і таксама, як многа мы можымо атрымаць праз пакору.

Возьмем насамперш фарызэя. Ці гэта быў чалавек зусім кепскі? Не, як св. евангельле сьведчыць, шмат рабіў ён добрага: пасьціў і аддаваў акуратна дзесяціну з усяго, што здабыў; ня крыўдзіў людзей і ня меў іншых дрэнных заганаў. Здаецца ўсё было добра, толькі аднае рэчы яму не хапала — пакоры. Вельмі быў пышны, нават і ў малітве гэта пыха праяўлялася: падышоў да самага аўтара, маліўся стоячы горда і лічыў сябе лепшым ад другіх людзей.

Многа, як бачым, меў фарызэй добрых учынкаў, аднак не зважаючы на ўсё гэта, ня меў ніякай заслугі перад Богам. Чаму? Таму, што пыха усё зьніштожыла, усё сапсула, і ўсё перамяніла чалавеку на згубу. Здаецца, што-ж можа быць лепшага ад малітвы. І малітву страшная гэта хвароба сэрца - пыха перамяняе ў грэх, як гэта відзімо на прыкладзе фарызэя: яго малітвы Госпадзь Бог ня прыняў, бо была грэшная. Гэта была не малітва, а абраза Божая: хваліў сябе, а другімі пагарджаў.

Вось, мае дарагія, прыклад, як трэба асьцярагацца пыхі, каторая так можа чалавеку пашкодзіць. Бывае так і цяпер паміж людзьмі: ходзіць чалавек у царкву, выпаўняе свае абавязкі перад Госпадам Богам, нічога вельмі дрэннага ня робіць, любіць маліцца. Здаецца чаго-ж там можа не-

ставаць? Калі замест пакоры чалавек паддаўся пысе, уся заслуга прападзе. Пыха як чарвяк усё сапсуе, зьнішчыць. Замест заслугі чалавек атрымае толькі кару за грэх пыхі.

Дарагі браце, добра робіш, што выпаўняеш наказы Божыя і што жывеш па Божаму, але не хваліся з гэтага, не пагарджай другімі. Не гавары, што ты заўсёды ходзіш у царкву, посьціш, у споведзі часта бываеш, а твой сусед жыве як бязбожнік: ня відаць яго ў царкве, ніколі ня моліцца, жыве як скаціна. Хто так казаў-бы, той падобны быў-бы да фарызэя, і такі самы лёс спаткаў-бы і ягоныя добрыя ўчынкі і малітвы. Пагарды годзен пышны грэшнік і ўчынкі яго. З пагардай Госпадзь Бог адкідае ад сябе пышнага і ягоныя ўсе добрыя ўчынкі.

2. „А мытар, стоячы здалёк на каленях, біўся ў грудзі кажучы: „Божа будзь міласьцівы нада мною грэшным".

Мытар быў вялікім грэшнікам, зьдзекаваўся над народам выціскаючы з яго падаткі. Мытары дапушчаліся пры выпаўненьні свайго неганаровага абавязку розных несправядлівасьцяў. вось чаму іх прыраўнівалі да паганцаў і яўных грэшнікаў. Можа і ня мыляўся фарызэй, лічучы таго беднага мытара, што стаяў пры дзьвярах сьвятыні на каленях, за вялікага грэшніка.

А ўсё-ж такі ня гледзячы на ягоныя грахі, ня гледзячы на яго вельмі грэшную душу, евангельле кажа—вышаў з сьвятыні выслуханы, апраўданы.

Чаму, дзеля якой прычыны?

Вось не дзеля чаго другога спадабалася Богу ягоная малітва і быў выслуханы, як толькі дзеля пакоры. Ён, як кажа св. евангельле: *„не адважыўся нават вачэй падняць у неба, але біўся ў грудзі, кажучы: Божа будзь міласьцівы нада мною грэшным"*.

Мытар зразумеў стан сваей душы, зразумеў сваю нягоднасьць, і вось гэнае зразуменьне свае нягоднасьці зрабіла яго годным міласьці Божай.

Вось для нас прыклад, як маем на сябе ўглядацца, як маем сябе ацэніваць перад Богам.

Можа ня ўсе мы такія вялікія за ласкай Божай грэшнікі як мытар, а ўсё-ж такі кожын мусіць прызнацца, што ён грэшнік. Усё, што мае добрага, мае ад Бога, не павінен дзеля гэтага прыпісываць толькі сабе тое, што ў ім ёсьць добрага, а толькі можа і павінен прыпісаць кожны сабе ўсе нявернасьці ласкі Божай, усе грахі.

Калі хочам быць апраўданымі перад Госпадам Богам, трэба нам асудзіць справядліва сябе. Калі хочам быць узвышанымі Богам, трэба нам панізіць сябе: бо як кажа св. евангельле—*хто узвышаецца, будзе прыніжаны, а хто паніжаецца будзе узвышаны"*.

**а. Антоні.**

# Думкі аб Уніі.

1. — Прыступаючы да разважаньня рэлігійнай справы, якой ёсьць Унія, перш-на-перш, зрабіць трэба гэтую паважную засьцярогу: Унія павінна шанаваць правы бела-



Пр. Епіскап МІКАЛАЙ ЧАРНЭЦКІ.

рускага народу. Трэба помніць, што народ гэны хаця разьдзеляны рэлігійна і палітычна, усё-ж-такі сабою творыць адзін жывы арганізм. Праўда, праява ягоных сіл жыцьцёвых была і ёсьць ня так магутнай, як у другіх народаў, але гэта ня значыць, каб у нутры яго ня скрывалася біолёгічная

(жыцьцёвая) энэргія і не ажыўляла па магчымасьці здольнасьцяў арганічных. Калі-б хто задумаў уводзіць у жыцьцё унію рэлігійную на нашых землях, не рахуючысь з правамі народу беларускага, няхай не спадзяецца трывалых вынікаў сваей працы.

2. — Але мо' хто скажа, ці нам Беларусам наагул ёсьць сэнс сягоньня гаварыць аб Уніі, калі ведаем, якое ўражаньне прыкрае выклікае яе ўспамін у душы кожнага праваслаўнага? Не, адказываем, гэта яшчэ не прычына. Людзям прыходзіцца думаць і гаварыць ня толькі аб мілых справах, але такжа аб прыкрых і балючых. Унія зраслася з гісторыяй нашай, больш як 300 гадоў была між намі, яе ўплывы зайшлі глыбока ў жыцьцё народнае, чаму-ж тады гаварыць між сабой мы Беларусы аб ёй ня можам? Апроч таго, ужо Унія сьвежымі адросткамі ізноў зарунела сягоньня на ніве нашай. Гэта-ж факт, як-жа з ім рахавацца ня можна?

Хто скажа, слабая надзея, каб з таго, што было калісьці, магло нешта выйсьці і цяпер? Гэтак гаварыць можна, але з другога боку немагчыма ня відзець, як пачатую работу ўздымаюць і далей праводзяць паважныя сілы каталіцкага Захаду: усюды ідзе пасьпешная падгатоўка на Ўсход праваслаўны. Рым спасобіць сьвежыя сілы і ніхто ім перашкодзіць ня зможа прыйсьці да нас і ўзяцца за работу місыянэрскую. Бачым кляштар ОО. Езуітаў у Альбэртыне пад Слонімам і духоўную сэмінарыю уніяцкую ў Дубне на Валыні. Гэта ўсё пацьвярджае магчымасьць пашырэньня Уніі і на землях беларускіх. А затым ёсьць сэнс і вялікі сэнс гаварыць нам між сабой аб Уніі: што добрага, што злога яна нам прынясе? Залежна ад таго маем заняць добра абдуманае, выразнае становішча адносна ўсяе гэтае справы. Бо калі Унія будзе добрай, то ўсім нам Беларусам добра будзе і праваслаўным і каталіком і наадварот, калі-б яна благой была, тады ўплывы яе ад'емна адаб'юцца на нашым цэлым жыцьці народным. Сьмела тады, адважна гляньма ёй у вочы, бо гэтага дамагаецца ад нас інтэрас наш жыцьцёвы.

3. — Цяпер, калі ўжо прыступаем гаварыць аб Уніі, ад чаго-ж пачаць? Пакінем пакуль-што з боку пытаньне догматычнага характару, пры кім праўда Хрыстова: пры каталікох ці праваслаўных. Нам-бы тут гэта за шмат часу і мейсца заняло. Гляньмо на Унію практычна. Перад намі Рым і беларускае праваслаўе. Разгледзім адно і другое. Рым — кожны прызнаць мусіць — гэта вялікая ўсясьветная павага маральная, з каторай лічацца ўсе дзяржавы і народы. Як аўторытэт рэлігійны рэпрэзэнтуе сабой адну магутную цэласьць хрысьціянскую і ідзе па сваёй лініі няўхільна трымаючысь загадаў і традыцыі Хрыстовай. А як-жа выгля-

дае праваслаўе беларускае? Усе добра ведаем, як яго выкарыстывала палітыка царская для русыфікацыі беларускага краю. Бачым так-жа ясна, хто цяпер пераняў тую тактыку і нахіляе жыцьцё да сваіх мэтаў. Аб долі-ж праваслаўя ў Усходняй часьці Беларусі — так і гаварыць няма што. Адным словам, вонкавыя варункі гістарычныя спрыялі мала жыцьцю нашага праваслаўя, а затым яно і не магло быць, гэтак як-бы сьледавала, узгадаваўчым дзейнікам моральным свайму краю і народу. Няма дзіва, што пры гэтакіх абставінах слабеў і ўнутраны строй царквы праваслаўнай, і што яна аказалась так мала адпорнай на розныя ўплывы сэктанскія часоў паваенных. Слабасьці гэтай немагчыма, каб не адчула вышэйшая ўлада царкоўная і затым яна ахвотна аглядаецца на саюзьнікаў, на каторых магла-б абапёрцісь, ажывіць сваю энэргію, адужаць. Да каго-ж працягвае свае рукі? Да хворага англіканізму, лютэранізму, да польскага „нарадовага" касьцёла; з гэтымі сэктамі злучаючысь думае ўзмоцніць сябе маральна, ды спраўдзіць або хоць прысьпяшыць пажаданьне Хрыстова, каб усе былі разам, адно стада і адзін пастыр. Бязумоўна Рым крапчэйшая апора ад усіх гэных саюзьнікаў, трудна нават падумаць, хто-бы таму пярэчыў, а цікава ўсё-ж, чаму Царква яго гэтак баіцца, чаму да яго не зварачываецца, ня шукае спосабаў навязаць з ім лучнасьці, сайсьцісь у адно цэлае арганічнае гэтак як да 1054 г., калі з ім разам жыла, як адна сьвятая апостальская „ecclesia". Сколькі тады сілы яна ў жыцьці сваім праявіла, як адпорна з гэрэзыямі змагалась, сколькі сьвятасьці, навукі наступным пакаленьням перадала! Ці-ж гэтага рэнэсансу (адраджэньня) спадзяецца ў лучнасьці з гнілым сэктанствам лютэранізму і англіканізму?...

4. — Прыходзіцца чуць з праваслаўнага боку: а ці мог-бы Рым быць той маральнай апорай без фармальнай з ім Уніі? Гэтак мы-бы абайшлі, кажуць, дужа запутаныя дагматычныя пытаньні адносна прымату рымскага і іншых пунктаў спорных Нас-бы тады, гавораць, падтрымлівала ў узаемных адносінах агульная любоў хрысьціянская не чапаючы аўтономічнай свободы адной і другой г. зн. праваслаўнай і каталіцкай суспольнасьці хрысьціянскай. Рым тады быў-бы добрым суседам, ад каторага салідарнасьць духа, сіла грамадзкая, арганізацыйная, цёплае сэрца старшага брата, за што яму падзяка шчырая і любоў узаемная, але ня трэба было-б думаць аб ягонай уладзе вышэйшай і аб упарадкаваньні адносінаў да яе. О, разумеецца — адказваем — права і наказ міласьці-любові абавязывае нас усіх людзей між сабою, Рым аб гэтым добра ведае і маем шырокія прыклады ў гісторыі, як ён праменьні гарачага сэрца свайго ськіровываў часта за межы сьвету каталіцкага. Як бацька добры ён любіць усіх, тых нават, каторыя ад яго

адлучыліСь і заснавалі свае сэкты больш-менш далёкія ад праграмы веры каталіцкай, але Рым добра ведае, што адна ёсьць праўда, адна вера, адна царква Хрыстова і дзеля таго ня можна глядзець спакойна на розьніцы догматычныя, каторыя шкодзяць праўдзе, веры, еднасьці царкоўнай. Ды ня толькі Рым, гэтак думаць павінна і ўсё праваслаўе. Цяпер ясна, чаму голас некаторых праваслаўных аб лучнасьці з Рымам бяз Уніі з ім зьяўляецца нечым незразумелым з пункту лёгікі і навукі хрысьціянскай.

5. — Але як-жа навязаць лучнасьць догматычную праваслаўя з Рымам, калі Ўсход апіраецца ў сваёй веры на 7 саборах, а Рым у сябе гэных сабораў лічыць аж 20? Ужо-ж пэўна, што розьніца ў 13 саборах адбілась так-жа і на многіх д-паўненьнях дэкрэтальных гэных сабораў, каторыя гэтакім чынам павялічылі склад догматычны каталіцкага касьцёла. Але што-ж тут дзіўнога, гэта-ж так натуральна. Чым быў 7-мы сабор адносна 6-га, тым 8-мы адносна 7-га і так далей. Выяўленьне навукі Хрыстовай на саборах ідзе эволюцыйна наперад і каб самая Царква праваслаўная сягоньня склікаць магла сабор агульны, скольк сьвежых запаўненьняў догматычных яна-бы сьвету паказала! Але тут новае толькі дапаўняе старое, а ніколі яму не пярэчыць. А затым і лік сабораў на Заходзе нікога страшыць не павінен.

*Беларус.*

---

## ГЫМН СЬВ. КІРЫЛУ і МЯФОДУ.

*Пераклад з твораў Розэнгайма.*

*Слава Вам брацьця славян прасьвяціцелі,*
*Цэрквы Хрыстовай сьвятыя айцы!*
*Слава Вам Праўды сьветлай вучыцелі,*
*Слава пісьменнасьці нашай, тварцы!*
*Будзьце-ж славянству злучвом аб'яднаньня,*
*Брацьця сьвятыя: Мяфод і Кірыл*
*Хай успакоіць нас дух уміленьня*
*Вашай малітвай прад Госпадам сіл.*

---

# Наш адказ.

У апошнія часы сталіся сумныя падзеі ў Гішпаніі: камуністы падбурылі людзей проціў царквы і духоўных; здарыліся выпадкі падпаляньня храмаў Божых, а ў студні г. г. уступаючы бязбожнікам прэзыдэнт Гішпаніі падпісаў дэкрэт аб высяленьні з Гішпаніі ў працягу 10 дзён усіх сяброў Таварыства Ісусовага і аб канфіскаце ўсей іх маемасьці.

Заўсёды была і будзе барацьба баміж каралеўствам гэтага сьвету і Каралеўствам Хрыста. Кожны хрысьціянін цешыцца, калі бачыць перамогу ідэі Хрыстовай, калі відзіць як Хрыстос валадарыць у сэрцы паасобных людзей і над цэлымі народамі і дзяржавамі. Сумна робіцца хрысьціянскаму сэрцу, калі відзіць, як ворагі Хрыста з допусту Божага дзе-не-дзе пашыраюць сваё панаваньне. Сумна, але не для ўсіх хрысьціян... Некаторыя нават цешацца, што каталіцкая царква ў Гішпаніі церпіць прасьледаваньне ад ворагаў Хрыста — камуністаў і масонаў.

Ня скрывае сваей радасьці і варшаўскае „Слово“, Вось што мы чытаем ў № 5 ад 31. І. 1932 году: „Як бачым, адным пацягам пяра ордэн езуітаў ня толькі распушчаны, але зусім астаўся бяз страхі над галавой, а яго сябры зрабіліся воляю лёсу бяздомнымі вандраўнікамі. Адным пацягам пяра падарваныя і зьмяшаныя з гразёю вельмі самахвальныя і гордыя запэўняньні urbi et orbi (паўсюду), што Гішпанія ў рымскай кароне, найлепшая і найдаражэйшая жамчужына“...

Далей гаворыцца: „Ужо даўно беспаваротна прайшла залатая для Ватыкану пара, калі ня толькі прамова папы, але адно ягонае слова, найменшае парушэньне яго рукі наводзіла страх на каралёў і дзяржавы... Sic transit gloria mundi“. (Так гіне слава гэтага сьвету).

Паводле часопісі „Слова“, усяму вінаватыя духоўныя каталіцкае царквы, яны заслужылі на кару, каторая іх спаткала. Цешыцца, што прайшла беспаваротна залатая пара для Ватыкану.

Ці гэта па хрысьціянску цешыцца з чужога няшчасьця?

Папа рымскі Піус XI аднак зусім інакш паступае адносна да праваслаўных нязлучаных. Ведама, як стараўся ратаваць патрыярха Ціхана, як бараніў перад усім сьветам праваслаўную нязлучаную царкву ў Расеі. Маліўся і моліцца, як сам казаў, што дзень за перасьледаваных хрысьціян праз бальшавікоў у Расеі. Прыпомнім яшчэ тутака яго адозву да ўсяго сьвету ў 1930 годзе, заклікаючаю маліцца за хрысьціян у Расеі.

Вось, мае дарагія, праваслаўныя, прыклад да перайманьня. Як добра было-б, каб і вы даведаўшысь аб пе-

расьледаваньні хрысьціян (хіба прызнаеце каталікоў за хрысьціян?) праз ворагаў Хрыста ў Гішпаніі, прынясьлі свае малітвы да Бога за іх. Калі можа каму здаецца гэта немагчыма, то прынамсі хай хоць паўстрымае сябе ад радасьці з няшчасьця другіх.

Браты нязлучаныя праваслаўныя, камуністы і масоны — гэта нашыя супольныя ворагі, сяньня нас крыўдзяць у Гішпаніі, заўтра можа вас будуць крыўдзіць у другой дзяржаве. Ці ня лепш было-б нам злучыцца проціў нашага супольнага ворага?

Прыпамінаю сабе такое здарэньне. Давялося мне ў Расеі пад бальшавікамі ўжо 11 гадоў таму выступаць разам з праваслаўнымі сьвяшчэньнікамі на дыспуце проціў бальшавікоў. Дыспут адбыўся ў тэатры ў горадзе К. Народу было поўна. Супольнымі сіламі бальшавікоў мы паканалі. Пасьля дыспуту адзін бальшавік пытаецца правасл. сьвяшч. А. Баярскага. Чаму вы разам выступаеце, калі вы паміж сабою вядзеце таксама барацьбу? На гэта разумна адказаў сьвяшчэньнік: „Праўда, мы маем паміж сабою розьніцы і спрачаемся, але гэта наша сямейная справа. Калі-ж мы бачым супольнага ворага, разам выступаем да барацьбы з ім“. — Разам вялі мы барацьбу і разам сядзелі ў турме на Шпалернай 25 у Петраградзе; так быць і павінна, гэта для кожнага, па хрысьціянску думаючага, вельмі ясна.

„Слова-ж“, рэлігійная часопісь, яшчэ з самага пачатку сумных падзеяў у Гішпані, у № 20 ад 20. X. 1931 г. цешылася, што зрабілася шчэліна у „скале Пятровай“. Надарма цешыцца, скала Пятровая заўсёды будзе цьвёрдай і ненарушанай, ніякая сіла ўражая яе не пераможа“ „врата ада не одолѣютъ ее“. (Мат. 16, 18). Царква Хрыстовая ўсясьветная, або каталіцкая не такую буру вытрымала прасьледаваньня, дзеля гэтага можам быць спакойнымі за яе будучыню.

Браты нязлучаныя праваслаўныя, падумайце лепш аб сваей царкве, ці не стаіць яна на пяску, аб каторым гаворыцца у Мат. 7, 27. Такім пяском ёсьць усякая сьвецкая ўлада, яе магутнасьць. Замест апірацца на магутнасьці гэтага сьвету, падумайце, ці ня лепш было-б прылучыцца да скалы Пятровай, а тады ніякая ўражая сіла ня будзе нам і вам страшная.

**Злучэнец.**



# Аб літарах друку.

Яшчэ перад пачаткам друкаваньня нашае часопісі многа мы думалі аб тым, якімі літарамі лепш было-б яе друкаваць. Гэта ня так лёгка пастанавіць, як можа каму здаецца. Напэўна не адзін па атрыманьні першага нумару „Да Злучэньня“ падумаў: вельмі добра, што пабеларуску пачала выходзіць рэлігійная часопісь, але шкода толькі што друкуецца гражданкай, лепш было-б друкаваць яе лацінкай,

Пытаньне, якімі літарамі друкаваць часопісь вельмі важнае, вось чаму здаецца нам трэба добра над гэтай справай застанавіцца, каб прыйсьці да якой канкрэтнай адносна літар пастановы.

Прадстаўлю паасобна доказы прамаўляючыя за лацінкай а потым доказы прамаўляючыя за гражданкай.

Доказы прамаўляючыя за ўжываньне лацінскіх літараў:

1) Мамэнт практычны. Беларусы апынуўшыся пад Польшчай, за малымі выняткамі, усе знаюць лацінскія літары, або як іх называюць польскія. А дзеці беларускія з малымі выняткамі выключна толькі лацінскія літары, дзеля таго, што вучацца ў польскіх школах, бо цалком беларускіх школ толькі некалькі.

Ня толькі дзеці беларускія, але і расейскія з невялікімі выняткамі ня знаюць так званай гражданкі. Гэта добра ведаюць сьвяшчэньнікі, каторыя вучаць дзяцей рэлігіі ў школе: ня можа нічога задаць з кніжак расейскіх, бо дзеці ня знаюць літараў. А калі што колек сьвяшчэньнік дыктуе, то дзеці рускія або царкоўна славянскія словы пішуць лацінкай. Мала хто з дзяцей умее чытаць друкованае гражданкай, вось чаму і пачалі праваслаўныя нязлучаныя друкаваць падручнікі да навукі рэлігіі парасейску лацінскімі літарамі. Напрыклад: „Modlitwy codzienne dla dzieci prawosławnych“. Тут славянскі зьмест малітваў надрукаваны славянскімі і лацінскімі літарамі. Пэўне, што гэтым не адступаюць расейцы ад свае рэлігіі, бо сьмешна думаць, што літары гражданкай больш праваслаўныя як пісаныя лацінкай. Літары ня могуць быць ані праваслаўныя, ані каталіцкія, літара — гэта толькі знак для абазначэньня гуку, голасу, ці так гэты гук абазначаны ці інакш для веры ўсё роўна.

Найлепш было-б, здаецца, ужываць літары такія, якія больш людзі знаюць. З пэўнасьцю можна сказаць, што пад Польшчай больш знаюць Беларусы лацінку. Вось чаму лепш было-б друкаваць лацінкай.

2, Лацінка агульна амаль праз усе народы прынята. На сьвеце шмат розных народаў для абазначэньня розных гукаў, розных моваў агульна прынялі ўжываць лацінскія літары. Некаторыя народы, як напрыклад немцы і румынцы толькі нядаўна ўвялі лацінку. Пэўне, для іх ня лёгка

было правясьці перамену, ўсё-ж такі зрабілі гэта, бо відзелі ў гэтым карысьць.

Іншыя народы, як напрыклад туркі, кітайцы і таксама рускія ў Савецкай Расеі маюць намер у хуткім часе перайсьці на лацінку. Калі іншыя народы прыймаюць агульна прынятыя літары, чаму нам так вельмі трымацца гражданкі? Ці можа нашая літэратура багацейшая ад нямецкай, пісанай готыцкімі літарамі?

Каб ня прыходзілася нам потым мяняць гражданкі лепш яе цяпер ня ўводзіць.

3) Еднасьць літараў напэўна спрыяла-б у справе абяднаньня так грамадзкага як і рэлігійнага нашага народу.

II Доказы за гражданку. Таксама ёсьць паважныя прычыны, чаму шмат Беларусаў выключна хацелі-б гражданкі.

1. Найважнейшая прычына, чаму і мы трымаемся гражданкі хаца ня выключна, гэта няпрыхільныя адносіны праваслаўных нязлучаных Беларусаў да ўсяго таго, што польскае. Літары лацінскія называюць польскімі, вось чаму ня хочуць праваслаўныя, каб беларуская часопісь друкавалася лацінкай. Па сваёй цемнаце многа людзей думаюць, што мяняючы гражданку на лацінку гэтым самым праваслаўны выракаецца свае веры і свае народнасьці. Вось чаму і мы, пішучы да Беларусаў праваслаўных нязлучаных, каб мець да іх прыступ і давера, выдрукавалі першы нумар нашае часопісі гражданкай.

Беларускі народ асабліва праваслаўныя вельмі баяцца палянізацыі і лацінізацыі. Вось калі Беларус відзіць газэты і кніжкі друкаваныя лацінкай, думае, што гэта ня зусім пабеларуску.

Здавалася-б, што ня трэба зьвяртаць увагі на розныя неразумныя прытычкі, рабіць сваё і толькі. Ня трэба рахавацца з паглядамі народу, калі хочам да гэтага народу падыйсьці.

2. Другая прычына, гэта тое, што беларуская літэратура амаль уся напісана гражданкай, гражданка дзеля таго зрабілася як-бы беларускай, народнай, сваёй.

Ня толькі Беларусы, але і другія славянскія народы ў большасьці друкуюць гражданкай.

Вось доказы, за гражданку і лацінку. Мне здаецца можа лепш было б друкаваць толькі лацінкай, прыймаючы аднак пад увагу пагляд нашага беларускага праваслаўнага народу і іншыя рацыі, мы будзем друкаваць нашую часопісь пакуль што гражданкай. Можа потым гісторыя сама так пакіруе жыцьцём нашага народу, што будзе можна з часам трымацца адных літараў. Дай Бог, каб гэта хутчэй сталася.

*а. А. Неманцэвіч.*

# Хроніка.

## З рэлігійнага жыцьця.

**Багаслужэньне ўсходня-славянс. абраду ў польскім радыё.** Кіраўніцтва польскага радыё трансмітавала на ўсе польскія надаўчыя станцыі багаслужэньне на Сьвята Ражства Хрыстовага ў Станіслаўоўскай катэдральнай царкве, а на Новы Год багаслужэньне з царквы Усьпеньня Прасьв. Багародзіцы ў Львове.

Апрача гэтага напярэдадні Сьвята Ражства Хрыстовага мужчынскі хор пад кіраўніцтвам п. І. Архімовіча сьпяваў да львоўскага радыё Калядныя песьні Ніжанскоўскага. Хор сьпяваў вельмі прыгожа.

**Альбэртын** каля Слоніма. 24 студня 1932 г. у Альбэртыне адбылося ў Народным Доме (Dom Ludowy) прадстаўленьне пабеларуску. Дзеці з прытулку вельмі прыгожа адыгралі „Абуджэньне прыроды" і „Бэтлейку". Апрача таго большыя дзеці прадаклямавалі прыгожа некалькі беларускіх вершыкаў. Усе вельмі ўдзячныя Паважаным с. с. Місьянаркам Н.. С. І. (N. S. J.) за шмат уложанай працы: добрае прыгатаўленьне дзяцей.

Пад канец хор царкоўны Альбэртынскі вельмі пекна адсьпяваў некалькі беларускіх народных песьняў пад кіраўніцтвам рэг. А. Турука.

Людзей было поўна і ўсе былі задаволены. Доўга будуць альбэртынцы, асабліва дзеці, памятаць гэтае беларускае прадстаўленьне.

**Апошні вечар а. а. Езуітаў у Барцэлёне.** „El Mati" падае нам вестку аб тым, як 28 студня с. г. а. а. Езуіты пакінулі свой кляштар у Барцэлёне (Гішпанія).

„Стаялі мы там у пахмурны вечар зімовы на Correr de Casp чакаючы на памятны мамэнт, як пакінулі а. а. Езуіты свой кляштар і не маглі мы паканаць таго ўражаньня, якое ахапіла нас. Кожны бачыў вялікае ўзварушэньне ў другога і ніхто не адважываўся сказаць аднаго слова"...

У тым часе ў кляштары адбывалася афіцыяльнае прыняцьце будовы і ўсяго інвэнтара. Урэшце функцыі гэтыя закончылі і паперу падпісалі.

„Але ў царкве яшчэ ёсьць Сьвятыя Дары, а калі выганяюць усіх сьвяшчэньнікаў, царква таксама мусіць быць замкнутая. Каля 20 чалавек ідуць разам з Айцом Рэктарам у царкву. Пры слабым сьвятле лямпачкі вечнай дагледзіць можна было толькі Галоўны Аўтар, аднак пры гэтым слабенькім тленьні царква выдаецца вышэйшай і большай як звычайна. Пустая была сярэдзіна царквы, дзе тысячы людзей

у вялікіх хлопатах і горы прыбягалі да Бога; часоўня Непарочнай Дзевы, у якой так часта разлягаліся песьні законьнікаў на чэсьць Марыі, была замкнута. Уся царква хаця пустая, поўная аднак была суму і апушчэньня. Прышоўшы ў часоўню дзе былі Сьвятыя Дары, адчыняе Айцец Рэктар дарахраніцельніцу і пробуе засьпяваць „Pange lingua“ (хай язык выхваляе), словы аднак ягоныя завязаліся ў горле, з вялікага жалю сьпяваць ня можа і мусіць здаволіцца толькі на прачытаньні гымну. Др. Ален і другія прысутныя сьпяваюць пры ступенях Аўтара песьню на чэсьць Сьвятых Дароў, а потым пачынаюць супольную літанію да Сьвяцейшага Сэрца Ісусовага і таксама чытаюць малітву за прасьлядоўцаў Царквы. Айцец Рэктар адгаварывае яшчэ, як апошняе сыноўскае паздраўленьне да свайго айца, малітву да Сьв. Ігнацага, а мы падымаемся з кален, каб праводзіць з васковымі сьвечкамі ў руках сьвяшчэньніка з Сьвятымі Дарамі да дзьвярэй царквы. Стаіць ужо там прыгатаваны самаход, каторым процэсіянальна маюць быць адвезяныя Сьвятыя Дары да кляштару Сёстраў Законных Ісуса і Марыі. Вечная лямпачка перад аўтаром ужо пагашана, дарахраніцельніца адчынена... Выгналі таксама і Хрыста“.



Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.